

VERTIGO
NEW STORYLINE
FABLES™
jj 4.02
ISSUE 6
WILLINGHAM
BUCKINGHAM
LEIALOHA
december 2002 2.50 can 4.25
ANIMAL FARM
SUGGESTED FOR MATURE READERS
DIRECT SALES
vertigocomics.com
ПАДАННІ #6
ПЕРАКЛАД: АРТУР БАРАДАЧОЎ
АФАРМЛЕННЕ: COMICSBY
BY COMICS


"FABLES not only lives up to—but actually exceeds—all of the hype."
— ZENtertainment
"Great fun."
— Booklist
FABLES
ANIMAL FARM
Bill Willingham
Mark Buckingham
Steve Leialoha
VERTIGO
ПАДАННІ СТВОРАНЫ **Б. УІЛІНГХЭМАМ**
FABLES
2
ПЕРАКЛАД
НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ:
**АРТУР БАРАДАЧОЎ**
АФАРМЛЕННЕ:
**СЯРГЕЙ**
**КОЗЫРАЎ**


Што адбывалася дагэтуль:
МЫ ДАВЕДАЛІСЯ, ШТО ШМАТ ПЕРСАНАЖАЎ З ЗЯМЕЛЬ ПАДАННЯЎ І ФАЛЬКЛОРУ ХАВАЮЦЦА Ў НЬЮ-ЁРКУ Ў ПАДПОЛЬНЫМ ЗГУРТАВАННІ, ЯКОЕ ЯНЫ НАЗЫВАЮЦЬ ФЭЙБЛТАЎН. ГЭТА ТАЙНАЕ ЗГУРТАВАННЕ БЕЖАНЦАЎ ЖУДАСНЫХ ВОЙНАЎ, ТАМУ ШТО ХТОСЬЦІ, ВЯДОМЫ ТОЛЬКІ ЯК "ВОРАГ", МЕТАДЫЧНА ЎРЫВАЎСЯ І ЗАВАЁЎВАЎ БЕЗЛІЧ ІХ КАРАЛЕЎСТВАЎ. АДНО ЗА АДНЫМ. КАЗАЧНЫХ - ЯК ЯНЫ САМІ СЯБЕ ЗАВУЦЬ - ЯКІЯ НЕ ПАДОБНЫЯ НА ЗВЫЧАЙНАГА ЧАЛАВЕКА Ў ГОРАДЗЕ, ПРЫМУШАЮЦЬ ХАВАЦЦА Ў ЗАГАРАДНАЙ ЧАСТЦЫ ФЭЙБЛТАЎНА, ВЯДОМАЙ ЯК ФЕРМА.
НЯДАЎНА РУЖАНЬКА І ЯЕ НЯ ВЕЛЬМІ ДОБРЫ ХЛОПЕЦ ДЖЭК З КАЗАК БЫЛІ ЗЛОЎЛЕНЫ ПРЫ СПРОБЕ ІНСЦЭНІРАВАЦЬ ЗАБОЙСТВА РУЖЫ, ШТО З'ЯЎЛЯЛАСЯ ЧАСТКАЙ СХЕМЫ, КАБ АШУКАЦЬ ЛОРДА СІНЕБАРОДА НА НЕВЯЛІКУЮ МАЁМАСЦЬ. БОЗЛІ ВОЎК, ШЭРЫФ ФЭЙБЛТАЎНА, СУМЛЕННА ЗАРАБІЎ ПЯРО САБЕ Ў ШЛЯПУ, ВЫСВЯТЛІЎШЫ ПРАЎДУ. БЕЛА СНЕЖКА, ПАМОЧНІЦА МЭРА (І РЭАЛЬНАЯ ЎЛАДА ЗА ТРОНАМ), ПРЫГАВАРЫЛА СВАЮ НЯЎДАЧНУЮ СЯСТРУ РУЖУ І ДЖЭКА ДА ШМАТГАДЗІННАЙ ГРАМАДСКАЙ ПРАЦЫ Ў РАСПЛАТУ ЗА ІХ ЗЛАЧЫНСТВА. ЗА ГЭТЫ ЧАС ДЖЭК НЯДОЎГА ПАБЫЎ ПРЫНЦАМ, ВЫДАТНЫ ПРЫНЦ НЯДОЎГА ПАБЫЎ ЖАБРАКОМ, І ЗДАРЫЛАСЯ ЯШЧЭ ШМАТ ЦІКАВЫХ РЭЧАЎ.
ТАК, ГЭТА ЗНОЎ "ЖЫЛІ-БЫЛІ".
СЛУХАЙ, ДЖЭК.
БОЗЛІ ЦАЛКАМ АДКАЗВАЕ ЗА ЦЯБЕ, ПАКУЛЬ МЫ З РУЖАЙ БУДЗЕМ АДСУТНІЧАЦЬ ГЭТЫ ТЫДЗЕНЬ. НЕ РАБІ ЯМУ ПРАБЛЕМ.
О, ДЖЭК НЯ ЗРОБІЦЬ **МНЕ** НІЯКІХ ПРАБЛЕМ, БЕЛА, ІНАКШ Я ПРЫБАЎЛЮ ЯМУ ЯШЧЭ НЕКАЛЬКІ ГАДЗІН **ГРАМАДСКАЙ ПРАЦЫ**.
ТЫ НЯ МОЖАШ ТАК **ЗРАБІЦЬ**, БОЗЛІ.
А ТЫ **ПАСПРАБУЙ**, ГНІЛАГАЛОВЫ.
ЁН **МОЖА** І **ЗРОБІЦЬ** ГЭТА, З МАІМ **БЛАГАСЛАВЕННЕМ**. ПАКУЛЬ ТЫ НЕ АДПРАЦУЕШ СВАЁ ПАКАРАННЕ ДАШЧЭНТУ, ТЫ ПРЫНАЛЕЖЫШ **НАМ**, ДЖЭК, ДУШОЙ І ЦЕЛАМ.
НАВАТ НЕ СПРАБУЙ ГЭТА ПРАВЯРАЦЬ, ІНАЧАЙ НАКЛІЧЫШ НА СЯБЕ СТРАШЭННАЕ ПАКАРАННЕ, ЯК ГНЕЎ УСЁМАГУТНАГА ГОСПАДА.
Паездка:
СЦЭНАР: **БІЛ УІЛІНГХЭМ**
АЛОВАК: **МАРК БУКІНГЕМ**
ТУШ: **СЦІВ ЛЭЙАЛОА**
ЛЭТЭРЫНГ: **ТОД КЛЯЙН**
КОЛЕР І СЕПАРЫРАВАННЕ: **ДАНІЭЛЬ ВОЗО**
ВОКЛАДКА: **ДЖЭЙМС ДЖЫН**
АС. РЭДАКТАРА: **МАРЫЯ ХОХНЭР**
РЭДАКТАР: **ШЭЛІ БОНД**
ПАДАННІ СТВОРАНЫ **Б. УІЛІНГХЭМАМ**
ПЕРАКЛАД НА БЕЛАРУСКУЮ МОВУ: **АРТУР БАРАДАЧОЎ**
АФАРМЛЕННЕ: **СЯРГЕЙ КОЗЫРАЎ**



З ІМ УСЁ БУДЗЕ **ДОБРА**. А ВЫ З РУЖАЙ АТРЫМЛІВАЙЦЕ АСАЛОДУ АД ВАШАЙ ПАЕЗДКІ І ВЫКІНЬЦЕ НАС З ГАЛАВЫ.
**ЯШЧЭ ЧАГО**. РУЖА І Я АТРЫМАЛІ **АДНОЛЬКАВАЕ** ПАКАРАННЕ.
ЧАМУ **ЯНА** БУДЗЕ АДПРАЦОЎВАЦЬ ПАКАРАННЕ Ў ПРЫЕМНАЙ **ПАЕЗДЦЫ,** ТАДЫ ЯК Я ВЫМУШАНЫ ЦЯГНУЦЬ ЛЯМКУ **ПРЫБІРАЛЬШЧЫКА** З ГЭТЫМ ПАРАДЖЭННЕМ ІНЦЭСТУ.
ЭЙ! НЯ БУДЗЬ ТАКІМ **ПАСКУДНЫМ**!
РУЖА **НІКУДЫ** НЕ ПАЕДЗЕ, КАЛІ НЕ ПАСПЯШАЕЦЦА.
НІЧОГА **АСАБІСТАГА,** МУХАЛОЎ.
=БІНГ=
А **ВОСЬ** І ТЫ.
ТЫ Б **ТАКСАМА** БЫЎ АД ІНЦЭСТУ, КАЛІ Б ТЫ БЫЎ ВЫМУШАНЫ НА ПРАЦЯГУ 20 ПАКАЛЕННЯЎ ЖАНІЦЦА ЎНУТРЫ СВАЁЙ **СЯМ'І**. ЛІЧЫ, ШТО ТАБЕ **ПАШАНЦАВАЛА,** ШТО ТЫ НЕ ПРАБЫЎ ПРЫНЦАМ БОЛЬШ ЗА АДЗІН ДЗЕНЬ.
ЧАМУ ТЫ ЯШЧЭ НЕ **САБРАЛАСЯ**? МЫ ЎЖО СПАЗНЯЕМСЯ.
**Я** САБРАЛАСЯ, ДАРАГАЯ СЯСТРЫЦА, **ВОСЬ.**




НА ЦЭЛЫ **ТЫДЗЕНЬ**?
Я ВАНДРУЮ ЎЛЕГЦЫ.
ПАВЕСЯЛІЦЕСЯ. БУДЗЬЦЕ АСЦЯРОЖНЫ. НЕ **ЗАБЕЙЦЕ** АДНА АДНУ.
ЭЙ. РУЖОВЫ КУСЦІК, ТЫ НЕ ЗБІРАЕШСЯ..?
ЯНА НАВАТ НЕ СКАЗАЛА **ДА ПАБАЧЭННЯ**. ПАВОДЗІЛА СЯБЕ ТАК, БЫЦЦАМ МЯНЕ **ТУТ** І НЯМА.
ТАМУ ШТО НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ЎСЕ ЯЕ ВЫДЫГАННІ, РУЖА ЎСЁ ЯШЧЭ РАЗУМНАЯ ДЗЯЎЧЫНА – ДАСТАТКОВА РАЗУМНАЯ, КАБ **ЗРАЗУМЕЦЬ,** НАРЭШЦЕ, ШТО НА ЦЯБЕ ВЯЛІКІМІ ЛІТАРАМІ НАПІСАНА, ШТО ТЫ ДУРАНЬ, ДЖЭК.
А ЗАРАЗ ВЯРТАЙСЯ ДА ПРАЦЫ. І КАЛІ **СКОНЧЫШ** ТУТ, ВЫЧЫСЦІ ДА БЛЯСКУ ПАВЕРХ З БАЛЁВАЙ ЗАЛАЙ НАВЕРСЕ. МУХАЛОЎ ЗА ГАЛОЎНАГА.
ЧАМУ **ЁН** БОС?
ТАМУ ШТО **Я** ТАК СКАЗАЎ.
Ў МЯНЕ ЁСЦЬ **ДОСВЕД,** КАБ БЫЦЬ БОСАМ. Я ЗАЎСЁДЫ ЗАЙМАЮСЯ ГЭТАЙ ПРАЦАЙ. Я **ВЕДАЮ,** ШТО ТРЭБА РАБІЦЬ.
А ШТО З **ТАБОЙ** ЗДАРЫЛАСЯ, МУХ? ЧАМУ ТЫ ЎВЕСЬ ЧАС ЗАВІСАЕШ НА ГРАМАДСКАЙ ПРАЦЫ?
БОЗЛІ ЗАЎСЁДЫ ЛОВІЦЬ МЯНЕ, КАЛІ Я ЕМ МУХ У **ГРАМАДСКІХ МЕСЦАХ**. ГЭТА НЯШМАТ ГАДЗІН У ПАКАРАННЕ ЗА КОЖНЫ РАЗ, АЛЕ ЯНЫ СКЛАДАЮЦЦА **РАЗАМ**.


НУ І ЧАМУ Я ПАВІННА ЕХАЦЬ З ТАБОЙ, А НЕ ЗАЙМАЦЦА САПРАЎДНАЙ ПРАЦАЙ? З ЯКОГА ЧАСУ Ў ЦЯБЕ З'ЯВІЛАСЯ МАНЕРА ГУЛЯЦЬ У ЛЮБІМЧЫКАЎ?
З ТАГО ЧАСУ, ЯК Я ВЫРАШЫЛА ВЫСВЕТЛІЦЬ, ПАСЛЯ ЎСІХ ГЭТЫХ ГАДОЎ АГРЫЗАННЯЎ АДНА НА АДНУ, ЦІ ЗМОЖАМ МЫ ПЕРАМАГЧЫ НАШЫ СУПЯРЭЧНАСЦІ.
ДОБРАЙ РАНІЦЫ, СПАДАРЫНЯ СНЕЖКА, СПАДАРЫНЯ ЧЫРВАНЬ. ЦУДОЎНЫ ДЗЕНЬ, ЦІ НЕ ПРАЎДА?
АЛЕ Я НЕ ЖАДАЮ ВЯРТАЦЦА НА ФЕРМУ! Я ГАРАДСКІ СВІН!
Я ЖАДАЮ ЗРАЗУМЕЦЬ, ЦІ СМОЖАМ МЫ ЗНОЎ ВЯРНУЦЦА ДА НАРМАЛЬНЫХ СЯСТРЫНСКІХ АДНОСІН.
ВЕЛЬМІ ШКАДА, КОЛІН, ДРУЖА, ТЫ ЕДЗЕШ І КРОПКА.
Я ЛІЧЫЎ НАС СЯБРАМІ, ДЖОНІ.
Я ПРЫВЯЖУ ЯГО МОЦНА, СПАДАРЫНЯ СНЕЖКА. ЁН НЕ ЗБЯЖЫЦЬ ІЗНОЎ, МОЖАЦЕ БЫЦЬ УПЭЎНЕНЫ.
ДЫК ГЭТА ПАДАРОЖЖА БУДЗЕ ЧЫМСЬЦІ НАКШТАЛТ ДОЎГАГА СЕАНСА ПСІХАТЭРАПІІ АДНА З АДНОЙ. РАСЬНІМ НАШЫ ДУШЫ? ВЫКАЖАМ НАШЫ СМУТКІ І СПУСЦІМ ЗЛОСЦЬ? ПАГАВОРЫМ ЯК ВЫХАВАНЫЯ ДЗЯЎЧЫНКІ?
ШТОСЬЦІ Ў ГЭТЫМ ДУХУ.
Я Б ЛЕПШ АНУЧАЙ ПАВАЗІЛА.
УСЁ ГАТОВА, ЛЭДЗІ. ЯНА ЗАПРАЎЛЕНА. АЛЕ САЧЫЦЕ ЗА ВАДОЙ У РАДЫЯТАРЫ, ЯНА ПЕРАГРАВАЕЦЦА.
ШКАДА-ШКАДА, РУЖА. ТВАЁ ПАКАРАННЕ ЗА ІНСЦЭНАВАННЕ СВАЙГО ЗАБОЙСТВА БУДЗЕ ТАКІМ, ЯКІМ ВЫРАШУ Я.
ЗАЛАЗЬ. КРЫЎДЗІЦЦА МОЖАШ І Ў ДАРОЗЕ.


ПРЫЕМНА ПРАВЕСЦІ ЧАС!
БУДЗЕ ЛАЙНОВА.
ТЫ ТАКСАМА МОЖАШ І ПАСПРАБАВАЦЬ АТРЫМАЦЬ АД ГЭТАГА ЗАДАВАЛЬНЕННЕ, РУЖА, ТАМУ ШТО ТЫ НІКУДЫ НЕ ДЗЕНЕШСЯ. ДВОЙЧЫ Ў ГОД Я ЕЗДЖУ ЗА ГОРАД, КАБ ПРАВЕРЫЦЬ СПРАВЫ Ў СУПОЛЦЫ КАЗАЧНЫХ НА ФЕРМЕ. ГЭТА НЕ ВОДПУСК, ГЭТА ПРАЦА. ТЫ БУДЗЕШ МНЕ ДАПАМАГАЦЬ.
ТЫ МОЖАШ БЫЦЬ ШЧАСЛІВАЙ ЦІ НЯШЧАСНАЙ, АЛЕ КЛЯНУСЯ БОГАМ, ТАБЕ ДАВЯДЗЕЦЦА ПРАЦАВАЦЬ.
ОЛБАНІ
МЫ ПРЫЕХАЛІ?
УЖО ПРЫЕХАЛІ?
КАЛІ ЛАСКА, НЕ КУРЫ ТУТ. Я СУР'ЁЗНА, НЕ СМЕЙ ЗАПАЛЬВАЦЬ ЯЕ!
ПОЗНА.


МОЖАШ УЛАДКАВАЦЦА **ЗРУЧНЕЙ**, РУЖА. ЗДАЕЦЦА, МЫ ТУТ ЗАХРАСНУЛІ.
О,ВЫДАТНА. ГАДЗІНЫ НУДНАГА ЧАКАННЯ, А ПАСЛЯ ЯШЧЭ БОЛЬШ НУДНЫЯ ГАДЗІНЫ Ў ДАРОЗЕ? У РЭШЦЕ РЭШТ, ТЫ ПАДАБРАЛА ДЛЯ МЯНЕ ДОБРАЕ ПАКАРАННЕ.
ПРЫВАТНАЯ ЎЛАСНАСЦЬ.
КОЛЬКІ ЯШЧЭ ДА ГЭТАЙ ДАЎБАНАЙ ФЕРМЫ?
ТЫ **ЖАРТЫ СТРОІШ**? ЗА ЎСЕ ГЭТЫЯ ГАДЫ – **СТАГОДДЗІ** – ШТО ТЫ ЖЫЛА Ў НЬЮ-ЁРКУ, ТЫ НІ **РАЗУ** НЕ ЗНАЙШЛА ЧАСУ З'ЕЗДЗІЦЬ У ЗАГАРАДНУЮ СУПОЛЬНАСЦЬ?
МЫ НА ТЭРЫТОРЫІ ФЕРМЫ ЎЖО АПОШНІЯ 20 **МІЛЬ**.
МЫ ЛІЧЫМ ЗА ЛЕПШАЕ, КАБ УСЁ ГЭТА БЫЛО **ВЫДАЛЕНА**. ДАЛЁКА-ДАЛЁКА АД ДАПЫТЛІВЫХ ВАЧЭЙ.
НАШЫ САМЫЯ МОЦНЫЯ АДЦЯГВАЮЧЫЯ ЗАКЛІНАННІ НАКЛАДЗЕНЫ НА ГЭТЫЯ ЗЕМЛІ, КАБ НЕ ДАЗВОЛІЦЬ ЗВЫЧАЙНЫМ НАВАТ **ЗАЦІКАВІЦЦА** ГЭТАЙ ВОБЛАСЦЮ.
А ВОСЬ ГЭТА САПРАЎДЫ ЦІКАВА.


ШТО ТЫ **РОБІШ**, БЕЛА?
СУНІМІСЯ, Я ШТОСЬЦІ **АГЛЯДАЮ**.
ЗБІРАЕШ АРЭШКІ НА ЗІМУ?
А НЕЛЬГА ПРОСТА НАЛІЦЬ ТРОХІ ВАДЫ З БУТЭЛЬКІ Ў РАДЫЯТАР І ПАЕХАЦЬ? МНЕ БЫЛО ДОСЫЦЬ НУДНА Ў ДАРОЗЕ, АЛЕ ГЭТА ЯШЧЭ ГОРШ.
РУЖА, ПАГЛЯДЗІ НА ГЭТА.
ПРЫВАТНАЯ ЎЛАСНАСЦЬ.
СТРЭЛЯНЫЯ МЕДЗЯНЫЯ ГІЛЬЗЫ. АД КУЛЬ І ЎСЯЛЯКАГА ТАКОГА ЛАЙНА. ЯКАЯ СПРАВА. ТУТ Ў ЛЯСАХ ПЭЎНА **ШМАТ ЗРУШАНЫХ НА ГАРМАТАХ**.
НЯ ТУТ. ДЗЕ **ЗАГОДНА**, АЛЕ ТУТ **НІКОЛІ**.
ТАМ РАСКІДАНА ЯШЧЭ **БОЛЬШ** ГІЛЬЗАЎ АД ДРАБАВІКОЎ І ГІЛЬЗАЎ АД ПАТРОНАЎ. АЛЕ НАШЫ АХОЎНЫЯ ЗАКЛІНАННІ ПАВІННЫ ТРЫМАЦЬ ЗВЫЧАЙНЫХ **ДАЛЕЙ** АД НАШЫХ ЛЯСОЎ. МЫ ДАСТАТКОВА БЛІЗКА ПАД'ЕХАЛІ ДА ФЕРМЫ, І КОЖНАЯ СТРАЛЬБА **ПАВІННА** БЫЛА БЫЦЬ ЧУТНА.
І ШТО?
А ТОЕ, ШТО Ў ІХ ЁСЦЬ ПРАМАЯ **ТЭЛЕФОННАЯ** ЛІНІЯ АД ФЕРМЫ ДА МАЙГО ОФІСА. ЧАМУ НІХТО НЕ **ПАВЕДАМІЎ** МНЕ ПРА ГЭТА? ПАЙШЛІ. РУХАВІК УЖО ПАВІНЕН ДОСЫЦЬ АСТУДЗІЦЦА, КАБ ПРАЦЯГНУЦЬ АСТАТНЮЮ ДАРОГУ.
МАБЫЦЬ, ПАРАСЯТЫ І КОНІКІ АБВЯСЦІЛІ ВАЙНУ КАЧАНЯТАМ І КАРОЎКАМ?


КУХОН-НЫЙ САД
ВАЎ, ДЫК ГЭТА І ЁСЦЬ ЗНАКАМІТАЯ ФЕРМА, Я **ЎРАЖАНА**, СЯСТРЫЧКА.
БЫЦЦАМ СТАРЫ МАКДОНАЛЬД СУСТРЭЎ УОЛТАДЫСНЕЯ Ў КРАІНЕ ЖЫВУНОЎ.


ЯНА ТАКСАМА ВЫГЛЯДАЕ ЗАКІНУТАЙ. ЦІ ГЭТА ПАВІНЕН БЫЦЬ ГОРАД-ЗДАНЬ?
НЕ, НЕ ПАВІНЕН.
ПРЫВІТАННІ?!
МЫ ЎЖО ПРЫЕХАЛІ?
ТАК, КОЛІН, МАЁ САПРАЎДНАЕ КАХАННЕ, МЫ НАРЭШЦЕ «ПРЫЕХАЛІ», АЛЕ ЗДАЕЦЦА, ШТО ТУТ БОЛЬШ НІКОГА НЯМА.
ШТО ГЭТА ТЫ КАЖАШ?
Я НЕ ЎПЭЎНЕНА. МАГЧЫМА ТУТ УСЕ ТАКСАМА Ж ЧАКАЮЦЬ ПРЫЕЗДУ МАЁЙ СЯСТРЫ, ЯК І Я.
ПРЫВІТАННІ?!
ДЗЕ ЎСЕ?
ПАЧАКАЙ, Я ШТОСЬЦІ ЧУЛА.
ПАЙШЛІ, ЗДАЕЦЦА, Я ЧУЛА ГАЛАСЫ Ў СВІРНЕ.
ЦІ ЁСЦЬ ХТО ДОМА?


І БОЛЕЙ, МАЕ СЯБРЫ, ДЖЭНТЛЬЗВЯРЫ, Я КАЖУ ВАМ, ШТО НАВУЧАННЕ ВЯЛІКАГА БАРДА «ВАЗЬМІСЯ ЗА ЗБРОЮ СУПРАЦЬ МОРА БЯДЫ» – ГЭТА БОЛЕЙ ЧЫМ ПРЫГОЖЫ МАЎЛЕНЧЫ ЗВАРОТ, ГЭТА САКАВІТЫ КАВАЛАК МАЙСТЭРСКІХ СЛОЎ АД МАЙСТРА ПЯРА. НЯ ВАРТА СТАВІЦЦА ДА ІХ ЛЁГКА, ЯК ДА ПУСТОЙ МЕТАФАРЫ, АЛЕ ЯК ДА ЛІТАРАЛЬНАЙ РАДЫ.
Я ЛІЧУ, МЫ НЕАДКЛАДНА ПАВІННЫ ПЕРАЙСЦІ ДА...
ОХ.
ЭМ... ПРЫВІТАННІ.
Я ЧАМУСЬЦІ ПЕРАШКОДЗІЛА?


БЯЖЫМ! БЯЖЫМ! ГЭТА АБЛАВА! ФЕДЭРАЛЫ ТУТ!
Я НЕ ПРЫЧЫМ! МЯНЕ АШУКАЛІ! Я ДАМ СВЕДЧАННІ!
СПАДАРЫНЯ СНЕЖКА?
ШТО ВЫ ТУТ РОБІЦЕ ТАК РАНА?
Я ТАК РАЗУМЕЮ, ГЭТА ГАРАДСКІ СХОД? КАЛІ ТАК, ЧАМУ ЯГО ПРАВОДЗІЦЬ ДАН, А НЯ ВЕЛУНД КАВАЛЬ?
НІХТО НЕ ЖАДАЕ РАСТЛУМАЧЫЦЬ МНЕ, ШТО ТУТ АДБЫВАЕЦЦА?
ГАРАДСКІ СХОД? ТАК, ВЯДОМА, ГЭТА ЁН... УСЁ АБСАЛЮТНА НЯВІННА.
Я НЯ ВЫТРЫМАЮ СУРОВАСЦЬ! Я ВЕЛЬМІ ДАЛІКАТНАЯ!
ХТО-НЕБУДЗЬ, КАЛІ ЛАСКА, ПРЫДУШЫЦЕ... ОХ, Я ХАЦЕЎ СКАЗАЦЬ... СУПАКОЙЦЕ ГЭТУ ПРАКЛЯТУЮ КУРЫЦУ.
У ГОНАР НЕЧАКАНАГА ПРЫЕЗДА БЕЛАСНЕЖКІ, Я ЛІЧУ, МЫ АДКЛАДЗЕМ АСТАТНЮЮ ЧАСТКУ ГЭТАЙ СУСТРЭЧЫ, ТАКІМ ЧЫНАМ МЫ ЎСЕ ЗМОЖАМ ЯЕ ВІТАЦЬ.
НАВОШТА? ШТО НАМ ХАВАЦЬ?
ГЭТА НЕ ПА ПАРАДКУ!
ГЛУПСТВА! ВЫРАШЭННЕ ПРА АДКЛАД ЗАЎСЁДЫ ПА ПАРАДКУ! ТАКІМ ЧЫНАМ СУЧАСНЫМ АБ'ЯЎЛЯЮ СХОД АДКЛАДЗЕНЫМ!


У ГЭТЫ ЧАС...
ПРАШУ ПРАБАЧЭННЯ, СПАДАРЫ, АЛЕ БЕЛАСНЕЖКА АД'ЕХАЛА НА НЕКАЛЬКІ ДЗЁН.
ТАМУ ЎСЕ СУСТРЭЧЫ АДКЛАДЗЕНЫ ДА НАСТУПНАГА ТЫДНЯ.
У ВЫПАДКУ ЭКСТРАНАЙ СІТУАЦЫІ ЗВЯРТАЙЦЕСЯ ДА БОЗЛІ ВАЎКА.
ЧАМУ МЫ ПАВІННЫ ЧАКАЦЬ? ЧАМУ ТЫ НЯ МОЖАШ НАМ ДАПАМАГЧЫ?
ЗАРАЗ, ДАРАГАЯ...
МЫ МАЕМ ПРАВА НА НАШЫ ПАСЛУГІ, ПАСТУШОК.
ПРЫБІРАЛЬНЯ, ЯКАЯ ЗАСМЕЦІАЛАСЯ, – ГЭТА ЭКСТРАНЫ ВЫПАДАК?
У НАС ЁСЦЬ ПРАВЫ!
КАЛІ ЎСЕ СУСТРЭЧЫ СКАСАВАНЫ, НАВОШТА ТЫ АДЧЫНЯЕШ ОФІС?
Я ПРОСТА ЗБІРАЮСЯ ЗАНЯЦЦА ДАКУМЕНТАМІ – СУМЛЕННА!
КАЛІ ЛАСКА, ВЯРТАЙЦЕСЯ ДАДОМУ, МЫ ЗНОЎ АДЧЫНІМСЯ НА НАСТУПНЫМ ТЫДНІ.
ФУФ.


НУ, БУФКІН, Я БАЧУ ТЫ ЎВЕСЬ ДЗЕНЬ **СТРОІЎ ДУРНЯ** І НЕ ПАКЛАЎ НА МЕСЦА НІВОДНАЙ **КНІГІ**.
БУФКІН?
**БУФКІН!**
ТОЛЬКІ НЯ ГЭТА!
БУФКІН, ТЫ **ПІЎ?**
ЕТА ПРАВА, ПАСАСУНАК.
КАБ ЦЯБЕ ЧОРТ УЗЯЎ, БУФКІН.
ДРЭННАЯ, **ДРЭННАЯ** МАЛПА!
КАДА КОШШ-КА ДАЛЁКА,НАМ, МЫШКЫМ,ТРЭБА ГУЛЯЦЬ.
А ПЕРАД БІТВАЙ МАЦІ...
О, БОЖА МОЙ! **СКАЖЫ**, ШТО ТЫ ГЭТАГА НЕ РАБІЎ!
ХІХІХІ ХІХІХІХІ ХІХІХІХІ ХІХІХІ!
УСЕ ДУМКІ ПРА ЦЯБЕ...
ТЫ ЗНОЎ НАПАІЎ РЫЦАРА-КЛЯТВА-ПАРУШАЛЬНІКА? ПАСЛЯ ТОЙ БЯЗЛАДЗІЦЫ Ў **МІНУЛЫ** РАЗ?


І ЛЕДЗЬ ПАЗНЕЙ...
У ГЭТЫМ ГОДЗЕ ВЫ ПРЫЕХАЛІ **РАНА**, СПАДАРЫНЯ СНЕЖКА.
3
ПАРАСЯЦІ ЭСКВАЙРЫ
Поўзі, Дан і Колін
І, МАБЫЦЬ, ДОБРА, ШТО Я ГЭТАК **ЗРАБІЛА**.
А ЗАРАЗ, ЦІ НЯ ЛІЧЫШ ТЫ, ШТО ПАРА ПАДРАБЯЗНА РАС-КАЗАЦЬ МНЕ, ШТО ГЭТА ТАКОЕ Я ЎБАЧЫЛА СЁННЯ ЎДЗЕНЬ?
БЕЗУМОЎНА, СПАДАРЫНЯ СНЕЖКА.
ПАГЛЯДЗІ НА ЎСЕ ГЭТЫЯ УТУЛЬНЕНЬКІЯ МАЛЕНЬКІЯ **ПАРА-СЯЧЫЯ** ШТУЧКІ, ПРОСТА ЯК У ХАЦЕ **РЭАЛЬНАЙ** АСОБЫ.
МЫ І **ЁСЦЬ** РЭАЛЬНЫЯ АСО-БЫ, СПАДАРЫНЯ ЧЫРВАНЬ.
ШТО ВЫ АБМЯРКОЎВАЛІ НА **СХОДЗЕ**, ДАН?
ШТО ЯШЧЭ, КАЛІ НАБЛІЖАЕЦЦА ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ?! МЫ АБМЯРКОЎВАЛІ, ШТО МЫ ПАВІННЫ **НАСТУПАЦЬ** НАЗАД Ў НАШЫ РОДНЫЯ ЗЕМЛІ І АДАБРАЦЬ ІХ У **ВОРАГА** І ЯГО ПЯКЕЛЬНЫХ ПРЫХВАСНЯЎ.
ВЫГЛЯДАЕ ТАК, БЫЦЦАМ ТЫ **АКТЫВІСТ ВЯТРАНЦАЎ**.
Я І ЁСЦЬ. І Я **НЕ** САРОМЛЮСЯ ПРЫЗНАЦЬ ГЭТА.


ХАЙ МЯНЕ ПЯРУН СПАЛІЦЬ. ЦІ ЁСЦЬ **ІНШЫЯ** ТУТ НА ФЕРМЕ?
СОТНІ.
БОЛЬШАЯ ЧАСТКА НАС, КАЛІ БЫЦЬ ДАКЛАД- НЫМ.
З **ЯКІХ** ПОР?
З ТЫХ САМЫХ, КАЛІ ДЛЯ ГЭТАГА З'ЯВІАСЯ АФІЦЫЙНАЯ **НАЗВА**.
ЧАМУ, ДАН? ПОЎЗІ? ЯК ВЫ МОЖАЦЕ СУР'ЁЗНА **ПАДТРЫМЛІВАЦЬ** ІДЭЮ АДКІНУЦЬ СВАЁ ЖЫЦЦЁ ДЗЕЛЯ БЯССЭНСАВАЙ **СПРОБЫ** АДВАЯВАЦЬ СТАРЫЯ КАЗАЧНЫЯ ЗЕМЛІ?
ТАМУ ШТО Ў АДРОЗНЕННЕ АД УСІХ ВАС ТАМ, У ВЯЛІКІМ ГОРАДЗЕ, МЫ НЕ ВЫГЛЯДАЕМ ДАСТАТКОВА **ПА-ЛЮДСКУ**, КАБ ШЧАСЛІВА ЖЫЦЬ СЯРОД ЗВЫЧАЙНЫХ. **ВЫ** МОЖАЦЕ ВАНДРАВАЦЬ ПА ЎСІМ СВЕЦЕ, КАЛІ ПАЖАДАЕЦЕ, А МЫ НАВЕК ЗАХРАСЛІ НА ГЭТЫМ ЛАПІКУ ЗЯМЛІ.
ВЫ **НАСТОЙВАЕЦЕ** НА ЗАКОНАХ, ЯКІЯ ПРЫМУШАЮЦЬ НАС ХАВАЦЬ НАШУ САПРАЎДНУЮ ПРЫРОДУ АД ЗВЫЧАЙНЫХ, МЫ НЯ МОЖАМ НІ **НАГОЙ** СТУПІЦЬ ЗА МЕЖЫ ГЭТАГА ТУРЭМНАГА ЛАГЕРА, ВЫ БАІЦЕСЯ, ШТО **РАЗМАЎЛЯЛАЯ** СВІННЯ ЦІ САПРАЎДНЫ ЖЫВЫ **ГІГАНТ** ВЫПУСЦЯЦЬ КАТА З МЯШКА – ТАК БЫ МОВІЦЬ.


ВЫ АБОДВА ПАВОДЗІЦЕ СЯБЕ БЯЗГЛУЗДА. ФЕРМА – ГЭТА НЕ ТУРМА. ГЭТА ВЫДАТНАЯ, ПАСПЯХОВАЯ СУПОЛКА КАЗАЧ- НЫХ ІСТОТ. 90 ЦЭНТАЎ З КОЖНАГА ДОЛАРА, ЯКІ МЫ ЗБІРАЕМ, ІДУЦЬ ТОЛЬКІ **СЮДЫ**, КАБ УТРЫМЛІВАЦЬ ФЕРМУ, ПОЎЗІ.
ВЫДАТКУЙЦЕ Ў ТЫСЯЧУ РАЗОЎ БОЛЬШ, КАБ МЫ **АКУНУЛІСЯ** Ў КОЖНЫ ВІД **РАСКОШЫ**... ПЕРАТВАРЫЦЕ ГЭТА МЕСЦА Ў РАЙ ДЛЯ СІБАРЫТАЎ... ГЭТА ЎСЁ АДНО ЗАСТАНЕЦЦА ТУРМОЙ, **ТАМУ ШТО НАМ НЕ ДАЗВАЛЯЮЦЬ ПАЙСЦІ!**
А ДЛЯ КАЗАЧНАЙ ІСТОТЫ ПАЖЫЦЦЁ- ВАЕ ЗНЯВОЛЕННЕ – ГЭТА ВЕЛЬМІ ДОЎГА. **СТАГОДДЗІ** ДЛЯ МЕНШАЙ ЧАСТКІ З НАС. ТЫСЯЧАГОДДЗІ І БОЛЬШ ДЛЯ НЕКАТОРЫХ.
АКЕЙ, ДОБРА. Я ДУМАЮ, ШТО Я РАЗУМЕЮ ТВАЕ **СІМПАТЫІ**, ДАН, АЛЕ ЯКІЯ Ў ВАС, УЛАСНА, ПЛАНЫ?
МЫ ЯШЧЭ НЕ **ПАДРЫХТАВАЛІ** НІЯКІХ. ГЭТА ПАРУШЫЛА БЫ ЗАНАДТА ШМАТ ВАШЫХ ЗАКОНАЎ І ЎСТАНАЎЛЕННЯЎ.
ГЭТА НЕ **МАЕ** ЗАКОНЫ, ГЭТА **НАШЫ** ЗАКОНЫ. ЯНЫ ІСНУЮЦЬ, КАБ ЗБЕРАГЧЫ ЎСІХ НАС.
ПАКУЛЬ МЫ ТОЛЬКІ АБМЯРКОЎВАЛІ АГУЛЬ- НУЮ **ЛІНІЮ ПАВОДЗІН**, А НЕ САМУ **СТРАТЭГІЮ**.
УЖО **ЛЯГЧЭЙ**. ПОЗНА. МЫ З РУЖАЙ ПОЙДЗЕМ **СПАЦЬ**. ВЕРНЕМСЯ ДА ГЭТАГА РАНІЦАЙ.
НЕ, ЗАСТАНЬ- ЦЕСЯ, ЛЭДЗІ. НОЧ ЯШЧЭ ТОЛЬКІ ПАЧАЛАСЯ.


ДАБРАНАЧ. ПАКОЙ ДЛЯ ГАСЦЕЙ ЦАЛКАМ ПАДРЫХТА-ВАНЫ ДЛЯ ВАС.
ДЗЯКУЙ, ПОЎЗІ, ДАБРАНАЧ.
АХ, І ТОЛЬКІ ЯШЧЭ АДНО.
ДЗЕ ВЕЛУНД КАВАЛЬ?
ЁН ПАЙШОЎ.
ПАДАЎ У ЗВАЛЬНЕННЕ.
РАПТАМ.
ГЭТА ЎСІХ ЗАСПЕЛА ЗНЯНАЦКУ.
Я ЎПЭЎНЕНА, ШТО **ЗАСПЕЛА**. НУ, ГЭТА ЯШЧЭ АДЗІН ПАЖЫТАК ДЛЯ ЗАЎТРАШНЯГА АБМЕРКАВАННЯ.
ІДЗЕШ, РУЖА?
ПРА КАГО ІШЛА ГАВОРКА? ХТО ГЭТЫ ВЕЛУНД КАВАЛЬ?
МОЙ АПАНЕНТ НУМАР АДЗІН ТУТ. ЧАЛАВЕК, ЯКІ КІРУЕ ФЕРМАЙ. ЦІ ЗДАЕЦЦА, ШТО РАНЕЙ КІРАВАЎ ФЕРМАЙ.
ТЫ ПАВІННА ГЭТА **ВЕДАЦЬ**. ГАДЗІНА ЗА ГАДЗІНАЙ Я ЎСЁ БОЛЬШ **ЖАХАЮСЯ** ТАМУ, КОЛЬКІ ТЫ **НЯ ВЕДАЕШ** ПРА НАШУ СУПОЛКУ І ЯКОЙ **ПЕРАКАНАНАЙ** НІЧОГА **НЯ** ВЕДАЦЬ ТЫ ЗДАЕШСЯ.


ДУМАЮ, **УСЁ** ПРАЙШЛО ТАК ДОБРА, ЯК МАГА БЫЛО ЧАКАЦЬ.
ТЫ ДУМАЕШ, ШТО ЯНА ПАВЕРЫ-ЛА НАМ... ПРА ТОЕ, ШТО МЫ ЯШЧЭ НЕ ПАДРЫХТАВАЛІ НІЯКІХ ПЛАНАЎ?
НІ Ў ЯКІМ РАЗЕ. АЛЕ Ў ЯЕ НЯМА НІЯКІХ **ДОКАЗАЎ** АДВАРОТНАГА, А БЕЛАСНЕЖКА, ЯКАЯ ЎСЁ РОБІЦЬ «ЗАЎСЁДЫ ПА ПАРАДКУ І ПРАВІЛАХ» НЯ БУДЗЕ НІЧОГА РАБІЦЬ НА ПАДСТАВЕ АДНЫХ ТОЛЬКІ ПАДАЗРЭННЯЎ.
НУ А ЗАРАЗ ПЯРОЙДЗЕМ ДА **ЦЯБЕ**, КОЛІН.
УЖО ПОЗНА, БРАТКІ. ЦІ НЯ ТРЭБА НАМ СПАЧАТКУ ДОБРА **ВЫСПАЦЦА**?
ЯК ПРАЙШЛА ТВАЯ МІСІЯ Ў ГОРАДЗЕ? ЦІ ТЫ ВЫКАНАЎ ГАЛОЎНУЮ **МЭТУ**?
ЦІ ЗМОГ ТЫ ДАСТАЦЬ ДУБЛІКАТ КЛЮЧА АД ОФІСА КІРАВАННЯ СПРАВАМІ Ў ВУДЛЭНДЗЕ?
НЕ, **ЯШЧЭ** НЕ.
КОЛЬКІ КАЗАЧНЫХ, ЯКІЯ ПАДТРЫМЛІВАЮЦЬ НАШЫ ІМКНЕННІ, ТЫ ЗНАЙШОЎ? ЦІ ЗРОБІЦЬ АДЗІН З ІХ ТОЕ, ШТО НАМ НЕАБХОДНА?
ЭММ...НУ... ЦІ БАЧЫЦЕ, БОЗЛІ ТРЫМАЎ МЯНЕ НА ВЕЛЬМІ КАРОТКІМ ЛАНЦУЖКУ, ТАМУ Я НЯ ЗМОГ ЗРАБІЦЬ ШМАТ ЧАГО.


ТОЛЬКІ АДЗІН ЛОЖАК?
НАМ ДАВЯДЗЕЦЦА **СПАЦЬ** НА АДНЫМ ЛОЖКУ?
МЕСЦА – ТУТ РАСКОША, РУЖА. ЯНЫ НЯ МОГУЦЬ ДАЗВОЛІЦЬ САБЕ ТРЫМАЦЬ СВАБОДНЫМ БОЛЬШ ЗА АДЗІН ПАКОЙ ДЛЯ ВЕЛЬМІ ВАЖНЫХ ГАСЦЕЙ.
РАССЛАБСЯ, ЛОЖАК ДАСТАТКОВА ВЯЛІКІ ДЛЯ НАС АБЕДЗВЮХ. БЫЦЦАМ РАНЕЙ МЫ НЯ СПАЛІ Ў АДНЫМ ЛОЖКУ.
ГЭТА БЫЛО ДАЎНО Ў МІНУЛЫМ, І Я З ТАГО ЧАСУ ВЫРАСЛА СА ЗВЫЧКІ СПАЦЬ З **ДЗЯЎЧЫНАМІ**... АКРАМЯ АДНАГО РАЗУ Ў ГОД ЦІ КАЛЯ ТАГО, У ЯКАСЦІ АСАБЛІВАГА ПАДАРУНКА НА ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ ДЖЭКА.
КАЛІ ЛАСКА, ЗБЕРАЖЫ АГІДНЫЯ ПАДРАБЯЗНАСЦІ ТВАЙГО САЦЫЯЛЬНАГА ЖЫЦЦЯ.
СПАКОЙНА, СЯСТРЫЦА. СА МНОЙ ТЫ Ў БЯСПЕЦЫ. НАВАТ КАЛІ Б Я ПЕРААДОЛЕЛА БАР'ЕР ІНЦЭСТУ, ТЫ НЕ Ў МАІМ ГУСЦЕ.
ТЫ ЗАРАЗ СПЕЦЫЯЛЬНА ІМКНЕШСЯ БЫТЬ ТАКОЙ АГІДНАЙ?
ПРЫЧЫНАЙ ГЭТАЙ ПАЕЗДКІ, АКРАМЯ МАІХ РЭГУЛЯРНЫХ ПАЎГАДАВЫХ АДМІНІСТРАЦЫЙНЫХ АБАВЯЗКАЎ, БЫЛО, КАБ МЫ З ТАБОЙ РАЗАБРАЛІСЯ Ў НАШЫХ АДНОСІНАХ.
ЯК СКАЖАШ.


«ЯК МЫ МАГЛІ БЫЦЬ ТАКІМІ БЛІЗКІМІ, І ТАК КАХАЦЬ АДНА АДНУ Ў ДЗЯЦІНСТВЕ...
МЫ **ЗАЎСЁДЫ** БУДЗЕМ ЛЕПШЫМІ СЯБРАМІ?
ВЯДОМА, ПА ВЕК ВЯКОЎ.
... ТОЛЬКІ ДЛЯ ТАГО, КАБ СКОНЧЫЦЬ НЯНАВІСЦЮ АДНА ДА АДНОЙ ПРЫ КОЖНАЙ СУСТРЭЧЫ, КАЛІ МЫ СТАЛІ ДАРОСЛЫЯ?»
У МАЁЙ СЯСТРЫ Ў ДУПЕ САМАЯ ВЕЛІЧЭЗНАЯ **ПАЛКА** ПА ЎСІМ СВЕЦЕ!
КАЛІ ПАМІЖ НАМІ ЎСЁ ТАК **САПСАВАЛАСЯ**?
Я **ЎСЁ** ПАМЯТАЮ, АЛЕ Я ЛІЧУ, ШТО ГЭТА ЎСЁ ПАЧАЛОСЯ ЗНАЧНА РАНЕЙ.
КАЛІ ТЫ ЗАСПЕЛА МЯНЕ Ў ПАСЦЕЛІ З ТВАІМ МУЖАМ, **ПАМЯТАЕШ**?
ЧАТЫРЫ ПУНКТА, ШАНОЎНАЯ СЯСТРА. ПЕРШЫ: ЗАБІ ЗЯПУ. ДРУГІ: ПАВЫРУБЛІВАЙ СВЯТЛО. ТРЭЦІ: ЗАГАРНІ ФІРАНКІ, КАБ Я МАГЛА СПАЦЬ ДА ЗАЎТРА. ЧАЦВЁРТЫ: Я СУР'ЁЗНА... **ЗАБІ ЗЯПУ**.
ВЕЛЬМІ ДОБРА, МЫ ЗМОЖАМ СКОНЧЫЦЬ ГЭТА Ў... ЭЙ, ШТО ГЭТА **ТАКОЕ**?
ШТО, ШТО **ТАКОЕ**?
ГЭТА ШТУКА ПОБАЧ З НАШАЙ МАШЫНАЙ.


БОЖА МОЙ! БОЖА МОЙ! ШТО ЯНЫ **НАРАБІЛІ**?
МАРКІТАВАЦЬ МАЕ ВОЧЫ, Я ЛІЧУ ГЭТА... О **НЕ!**


ШТО ГЭТА, РУЖА, ШТО **ГЭТА**?
ГЭТА НЕБАРАКА КОЛІН. І, ЗДАЕЦЦА, ГЭТА ТАКСАМА І ДАСЛОЎНАЯ ІНФАРМАЦЫЯ.
Я ЛІЧУ, ШТО ХТОСЬЦІ ЖАДАЎ УПЭЎНІЦЦА, ШТО МЫ АТРЫМАЕМ **ВЕЛЬМІ** АДМЕННАЕ ДАРУЧЭННЕ.
ДАЛЕЙ: ГАРМАТЫ ФЭЙБЛТАЎНА